

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 4 (красавік), 2013

# Мяжа




**«Чарнобыльскі шлях» прайшоў пад лозунгам «Не - АЭС»**

(Старонка 6)

# ЗЬМЕСТ

# З “Граніта” звольнілі чарговага прафсаюзнага актывіста

Звальненне актывіста Незалежнага прафсаюза Анатоля Літвінкі з прадпрыемства “Граніт” у Мікашэвічах праведзена з асаблівым цынізмам. Так кажа старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук.

- 26 сакавіка адбылося адмысловае паседжанне Рады, якая ў свой час была створана як інструмент рэалізацыі рэкамендацыі Міжнароднай арганізацыі працы па ўзнаўленні правоў прафсаюзаў, і якая павінна была разглядаць канкрэтныя факты чарговых парушэнняў правоў прафсаюзаў. Паседжанне адбылося, разбіралі справу “Граніта”. Прысутнічаў Анатоль Літвінка. У выніку літаральна праз некалькі дзён яго звольнілі.

Актывіста Еезалежнага прафсаюза Анатоля Літвінку звольнілі 1 красавіка пасля начной змены на працы. Як прычына звальнення пазначана «сістэматычнае невыкананне працоўных абавязкаў». На працягу года з прадпрыемства «Граніт» у Мікашэвічах звольнілі шэраг сябраў суполкі Незалежнага прафсаюза.

* * *

Актывіста незалежнага прафсаюза Анатоля Літвінку звольнілі з мікашэвіцкага каменездабываючага прадпрыемства «Граніт». З загадам яго азнаёмілі 1-га красавіка, пасля выхаду з начной змены. У дакуменце, які падпісаў генеральны дырэктар Эдуард Гаўрылковіч, прычынай звальнення пазначана «сістэматычнае невыкананне працоўных абавязкаў».

***Анатоль Літвінка*** будзе судзіцца з прадпрыемствам, паколькі лічыць прычыну звальнення несапраўднай:

- Мой актыўны ўдзел у незалежным прафсаюзе на “Граніце” і прывёў да звальнення маёй сям’і з прадпрыемства. Я тут працаваў больш за 12 гадоў. Адміністрацыя палічыла, што я вельмі дрэнны работнік. Яны ж не могуць напісаць, што звальняюць мяне за актыўны ўдзел у незалежным прафсаюзе!

**І колькі з “Граніта” звольнілі ўжо тых, хто быў у незалежным прафсаюзе?**

***Анатоль Літвінка***: Звольнілі мяне, маю жонку Людмілу, Алега Стахаевіча, Мікалая Карышава, Генадзя Паўлоўскага, Віталя Пашэчку. На “падыходзе” актывіст прафсаюза Леанід Дубаносаў. У яго на працоўным месцы ўжо была камісія. Яна працавала два дні, і я так разумею, што камісія падрыхтавала два загады пра дысцыплінарныя спагнанні, каб з’явіліся юрыдычныя падставы не падоўжыць з ім кантракт.

**Што вы цяпер будзеце рабіць?**

***Анатоль Літвінка***: Я збіраюся абараняць свае правы нават у нашым судзе, дзе, зразумела, я фактычна нічога не даб’юся, але гэтую фармальнасць трэба прайсці. Зараз мы збіраем дакументы. Будзем рыхтаваць іскавую заяву. Маё звальненне абурыла людзей на нашым прадпрыемстве. Гэтая тэма зараз актыўна абмяркоўваецца ў працоўных калектывах. Бо людзі бачылі, што мы зрабілі і чаго дамагліся на прадпрыемстве. Людзі з незалежным меркаваннем, са сваёй грамадзянскай пазіцыяй не падабаюцца ні кіраўніцтву прадпрыемства, ні нашай уладзе. У савецкія часы ў людзях забівалі ўсю самастойнасць і зараз, пры дзейсным палітычным рэжыме, забіваюць у людзях любую ініцыятыву. Чалавек перастае быць асобай, пераўтвараючыся ў істоту. Сваім прыкладам мы паказваем, што можна захаваць сваю годнасць і сваё сумленне.

Цягам году з прадпрыемства «Граніт» у Мікашэвічах былі звольненыя шэсць актывістаў незалежнага прафсаюза.

*racyja.eu/index.php?id=105&zoom=12435#.UVstACW0vk1*

## Апошняга прафсаюзнага актывіста на «Граніце» звальняюць

Адміністрацыя «Граніту» мае намер пазбавіцца ад апошняга актывіста незалежнага прафсаюзу Леаніда Дубаносава.

Ад звальнення экскаватаршчыка ратуе пакуль толькі той факт, што ён знаходзіцца ў чарговым адпачынку.

Гэтую інфармацыю charter97.org пацвердзіў кіраўнік ячэйкі Беларускага незалежнага прафсаюзу на размешчаным у Мікашэвічах РУВП «Граніт» Алег Стахаевіч.

«Сапраўды, Дубаносава шукаюць прадстаўнікі адміністрацыі прадпрыемства і спрабуюць дамагчыся, каб ён прыбыў у аддзел кадраў, дзе яму напэўна паведамяць аб скасаванні працоўнага кантракту, - паведаміў Стахаевіч. - Але Леанід зараз у адпачынку, да таго ж знаходзіцца на бальнічным. Таму пытанне аб яго звальненні адкладаецца да канца красавіка».



Якая прычына будзе афіцыйна аб'яўленая падставай для звальнення пакуль невядома, але раней ад Леаніда Дубаносава (на фота) ўжо патрабавалі, каб ён адмовіўся ад выплаты членскіх узносаў у незалежны прафсаюз праз бухгалтэрыю «Граніту», у іншым выпадку паабяцаўшы знайсці падставы для скасавання працоўнага кантракту. Характэрна, што Дубаносаў працуе на прадпрыемстве ў Мікашэвічах ужо больш за дзесяць гадоў і ніколі не меў заўваг з боку кіраўніцтва, а ў апошні час прэтэнзіі сталі з'яўляцца амаль кожны дзень. Леанід наўпрост звязвае гэта са сваім удзелам у мясцовай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза.

Як распавёў Алег Стахаевіч, кіроўца экскаватара Дубаносаў застаецца апошнім з актывістаў прафсаюзнай арганізацыі, хто яшчэ працягвае працаваць непасрэдна на РУВП «Граніт». Па словах Стахаевіча, з моманту стварэння новай ячэйкі з прадпрыемства былі звольненыя самыя актыўныя сябры незалежнага прафсаюза - сам Стахаевіч, Мікалай Карышаў і яго жонка Маргарыта, Генадзь Паўлоўскі, Віталь Пашэчка, Людміла Літвінка, а з 1 красавіка такая ж доля спасцігла і яе мужа Анатоля, які выконваў функцыі сакратара-скарбніка.

Нагадаем, што ў канцы 2011 года 600 работнікаў «Граніту» заявілі аб выхадзе з дзеючай на прадпрыемстве афіцыйнай

прафсаюзнай арганізацыі і заявілі пра намер стварыць альтэрнатыўную першасную структуру БНП, якая рэальна змагалася б за іх правы. Аднак зарэгістраваць незалежны прафсаюз не атрымоўваецца, бо для гэтага яму трэба атрымаць юрыдычны адрас, але адміністрацыя прадпрыемства адмаўляе ў прадастаўленні памяшкання і працягвае ціск на прыхільнікаў новай арганізацыі.

*charter97.org/be/news/2013/4/4/67535/*

## «Чарнобыльскі шлях» прайшоў пад лозунгам «Не - АЭС»

У гэтым годзе «Чарнобыльскі шлях» прайшоў з патрабаваннем спыніць будаўніцтва АЭС.

Пазіцыя аргкамітэта гэтага мерапрыемства сёння аднадушная - атамная энергетыка нясе непрымальную рызыку жыхарам Беларусі і іншых краін свету.

Пра гэта гаворыцца ў сумеснай заяве старшыні Рады Грамадскага аб'яднання ГА «Экадом» Ірыны Сухій, каардынатара Беларускай антыядзернай кампаніі Таццяны Новікавай і каардынатара грамадскай кампаніі «Астравецкая атамная - гэта злачынства!» Мікалая Уласевіча.

«У гэтым годзе тэндэнцыя адмовы ад атамнай энергетыкі стала больш відавочнай, і сёння на бяз'ядзерны шлях становяцца не толькі развітыя краіны, але і тыя, хто параўнальны з Беларуссю па ўзроўні эканамічнага развіцця, напрыклад, Літва, дзе ў мінулым годзе на рэферэндуме народ не падтрымаў будаўніцтва АЭС. У Балгарыі грамадзяне сарвалі рэферэндум у падтрымку будаўніцтва АЭС. У Японіі працягваюцца масавыя пратэсты супраць выкарыстання атамнай энергетыкі. У ЗША разглядаецца пытанне закрыцця шэрагу старых небяспечных АЭС, а ў шэрагу штатаў заканадаўча забароненае будаўніцтва новых рэактараў», - гаворыцца ў заяве.

Эколагі адзначаюць небяспеку будаўніцтва АЭС у Беларусі.

«Увесь свет, уключаючы Кітай і краіны, якія актыўна развіваюцца, асвойвае аднаўляльныя крыніцы энергіі. І толькі Беларусь, дзе доля ад новых тэхналогій аднаўляльнай энергетыкі

не дасягнула і дзесятых доляй адсотка, узялася за будаўніцтва АЭС - па расейскім эксперыментальным праекце, неправераных тэхналогіях, з парушэннем заканадаўства, тэхнічных і будаўнічых нормаў, з апярэджаннем графіка і насуперак меркаванню грамадзян. Небяспека такой АЭС павышаецца на парадкі, асабліва калі ўлічыць факт пачатку выбаркі катлавана і бетанавання яго заснавання больш чым за паўгода да з'яўлення архітэктурнага праекта беларускай АЭС, і да яго дзяржэкспертызы», - гаворыцца ў дакуменце.

Відавочна, што сапраўдныя прычыны будаўніцтва далёкія ад эканамічных і экалагічных інтарэсаў грамадзян.

«Гэтыя факты тлумачаць, чаму беларускія ўлады імкнуцца замоўчваць наступствы Чарнобыля, скажаюць або не даюць грамадзянам інфармацыю аб рэальнай сітуацыі ў Беларусі, звязаную з аварыяй на ЧАЭС.

Сёння на тэрыторыі, якая падверглася чарнобыльскаму забруджванню, жывуць людзі, у тым ліку і дзеці. Беларуская дзяржава, адабраўшы ў ліквідатараў ЧАЭС і пацярпелых льготы, заахвочвае людзей да вяртання на забруджаныя тэрыторыі, пашырае іх гаспадарчае асваенне. Паводле афіцыйных дакладаў, дзеці ў Гомельскай вобласці праходзяць штогадовы рэнтген, а прадукты харчавання з зоны - Нароўлі, Брагіна і Хойнікаў праходзяць строгі дазіметрычны кантроль.

Але мы ўпэўненыя, што дзеці наогул не павінны жыць на забруджаных тэрыторыях, а вытворчасць прадуктаў харчавання там павінна быць спыненая - бо пастаяннае ўнутранае апраменьванне, нават у параўнальна невялікіх дозах, нясе сур'ёзную небяспеку для здароўя і жыцця чалавека! Асабліва, калі гаворка заходзіць пра дзяцей.

Мы вітаем намер удзельнікаў аргкамітэта «Чарнобыльскага шляху» надаваць пастаянную ўвагу гэтым праблемам. Для гэтай мэты аргкамітэт абвясціў аб тым, што ён стане пастаянна дзеючым, а першым крокам да вырашэння праблем стане інфармаванне беларусаў пра радыяцыйныя праблемы і рызыкі на сістэматычнай аснове», - адзначаюць эколагі.

ГА «Экадом» уваходзіць у аргкамітэт «Чарнобыльскага шляху - 2013», яго сябра і каардынатар БАЯК Таццяна Новікава - адна з афіцыйных арганізатараў мерапрыемства.

*charter97.org/be/news/2013/4/9/67726/*

## Праваабаронца Сяргей Гоўша накіраваў наглядную скаргу Генпракурору

Праваабаронца Сяргей Гоўша 3 красавіка накіраваў наглядную скаргу Генеральнаму Пракурору на вызначэнне суддзі Маскоўскага р-на г. Мінска ад 31мая 2010 г. і вызначэнне судовай калегіі па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда ад 5 жніўня таго ж году.

У ёй паведамляецца, што 14 мая 2010 г. у адпаведнасці з ч.2 арт 60 Канстытуцыі РБ Сяргей Гоўша звярнуўся ў суд Маскоўскага раёна г. Мінска з іскавай заявай да дзяржавы аб кампенсацыі маральнай шкоды. Аднак вызначэннем суддзі ад 31 мая праваабаронцу было адмоўлена ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы з тае прычыны, што, на думку суддзі, яго іскавая заява непадведамнасная суду.

Не пагадзіўшыся з вышэйзгаданым вызначэннем, 15 чэрвеня 2010 года Сяргей Гоўша звярнуўся ў судовую калегію Мінскага гарадскога суда з прыватнай скаргай, у якой прасіў вызначэнне суддзі суда Маскоўскага раёна г. Мінска адмяніць і перадаць справу на разгляд у суд першай інстанцыі. Але вызначэннем судовай калегіі Мінскага гарадскога суда ад 5 жніўня ў задавальненні скаргі Сяргею Гоўшы было адмоўлена з той жа прычыны.

“Але чаму, на падставе якога заканадаўчага акту, было вынесенае такое неаб’ектыўнае рашэнне?” - пытаецца ў Генеральнага Пракурора правабаронца Сяргей Гоўша.

Аналагічны адказ ён атрымаў 30 снежня 2010г. і ад старшыні Мінскага гарадскога суда, на імя якога праваабаронца звярнуўся з нагляднай скаргай.

У сваёй скарзе на імя Генеральнага Пракурора Сяргей Гоўша прыводзіць свае доказы, што судовыя пастановы ад 31 мая 2010г. і ад 5 жніўня 2010г. былі прынятыя з істотным парушэннем дзеючага заканадаўства.

Сяргей Гоўша даводзіць Генеральнаму пракурору, што згодна ч.1 арт. 60 Канстытуцыі РБ кожнаму гарантуецца абарона яго правоў і свабод кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом у вызначаныя законам тэрміны. Зыходзячы з гэтай канстытуцыйнай нормы Канстытуцыйны Суд РБ у сваіх рашэннях (у прыватнасці – у Рашэнні ад 5 красавіка 2007 г.), а таксама ў штогадовых пасланнях аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь неаднаразова звяртаў увагу на прамое дзеянне ч.1 арт. 60 Канстытуцыі.

“Гэта азначае, – лічыць Сяргей Гоўша, – што калі нават нейкім, не згаданым у судовых пастановах, актам заканадаўства яго іскавая заява выведзена з падведамнасці суда, то суд, зыходзячы з вышэйзгаданых нормаў Канстытуцыі, у любым выпадку павінен узбудзіць і разгледзець справу па сутнасці і паставіць ва ўстаноўленным парадку пытанне аб прызнанні такога акта неканстытуцыйным (арт. 112 Канстытуцыі).

І з пазіцыі міжнароднага права (у прыватнасці, арт. 14 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і арт. 33 Закона “Аб міжнародных дамовах Рэспублікі Беларусь”) пададзеная мною іскавая заява падведамнасная суду, а судовыя пастановы, якімі адмоўлена ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы, парушаюць маё права на доступ да суда”, – падсумаваў праваабаронца Сяргей Гоўша.

Зыходзячы з вышэй выкладзенага і кіруючыся арт.арт. 21, 59, 60 Канстытуцыі РБ, арт.арт. 436 - 439 ГПК Сяргей Гоўша просіць: запатрабаваць з суда Маскоўскага раёна г. Мінска справу па яго іскавай заяве аб кампенсацыі маральнай шкоды, праверыць законнасць і абгрунтаванасць вынесеных па ёй судовых пастаноў – вызначэнне суддзі Маскоўскага р-на г. Мінска ад 31 мая 2010г. і вызначэнне судовай калегіі па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда ад 5 жніўня 2010 г. і прынесці пратэст у парадку нагляду для іх адмены і ўрэшце вынесці рашэнне на падставе Канстытуцыі ды міжнародна-прававых актаў, ратыфікаваных Рэспублікай Беларусь.

*spring96.org/be/news/62332*

## Берасцейскую настаўніцу высяляюць з кватэры

Выселіць з дома хочуць берасцейскую настаўніцу Алену Рыбак. Некалькі гадоў яна змагалася за тое, каб атрымаць на рукі дакументы пра аварыйнасць дома. Жанчына хацела стаць на льготную чаргу. Дакументы ёй не выдалі, але папрасілі выселіцца да жніўня гэтага года.

Алена Рыбак лічыць, што яна, як дзяржаўная служачая, засталася сацыяльна неабароненай:

- Калі гэты дом не прыдатны для пражывання, і я стаю многія гады ў чарзе на жыллё, то хачу мець 5% крэдыт, каб пабудаваць жыллё. Але я не магу гэтага зрабіць, бо зараз дом адсяляюць, і на сённяшні дзень льготных кватэр не будуюць.

Алена Рабык пражыла больш 40 гадоў у доме нумар 22 па вуліцы Леванеўскага. Кватэра з’яўляецца напалову дзяржаўнай, напалову – службовай. Прадстаўнікі ўлады прапанавалі жанчыне заключыць дамову на 5 год на арэнду іншай службовай кватэры.

Берасцейскі праваабаронца Уладзімір Малей лічыць такое высяленне законным толькі пры наяўнасці дакументаў, якія пацвярджаюць аварыйнасць дома. Адсутнасць такіх дакументаў пазбаўляе права стаць на льготную чаргу.

*racyja.eu/index.php?id=105&zoom=12450#.UVss8yW0vk1*

## Новая хваля ціску на Мікалая Стакевіча

На палітзняволенага кандыдата ў прэзідэнты на мінулых выбарах Мікалая Стакевіча пачалася новая хваля ціску. Звесткі пра гэта атрымала жонка палітыка Марына Адамовіч. За ўдзел у Плошчы 2010 Статкевіч асуджаны на 6 гадоў зняволення па артыкуле “Аб масавых беспарадках”. Ён катэгарычна адмаўляўся пісаць прашэнне пра памілаванне на імя Лукашэнкі, напісання якога ад палітзняволенага дабіваліся спачатку адміністрацыя Шклоўскай калоніі №17, а потым Магілёўскай турмы №4.

- Я маю звесткі пра тое, што пасля непрацяглага перапынку пачаліся чарговыя правакацыі супраць Мікалая Статкевіча ў Магілёўскай турме №4. Наколькі мне вядома, у мінулую нядзелю двойчы спрабавалі здзейсніць нейкія правакацыі супаць яго ў камеры. На жаль, пакуль што мне змест дакладна не вядомы.

Але нават у жорсткіх турэмных умовах Мікалай Статкевіч не

губляе прысутнасці духа, працягвае аналізаваць як цяперашнюю сітуацыю, так і мінулае Беларусі. Па словах Марыны Адамовіч, ён даслаў эсэ, у якім разважае пра нацыянальную ідэю. У бліжэйшы час гэтая праца будзе апублікаваная на асабістым сайце палітыка.

*racyja.eu/index.php?id=104&zoom=13111#.UXaPHoa0uil*

## Мікалай Аўтуховіч: "Новы лідар ёсць сярод нас"

Палітвязень разважае ў лісце, якія перамены ў бліжэйшы час сакаюць Беларусь, а таксама дзеліцца апошнімі навінамі.

Так, Мікалай Аўтуховіч адзначае, што грамадскасць, безумоўна, чакае новага палітычнага лідара: "Я ведаю, што такі чалавек ёсць сярод нас. І спадзяюся, што ў хуткім часе штосьці зменіцца ў гэтым накірунку".

Таксама палітвязень закранае пытанне адказнасці чыноўнікаў за тое, што сёння адбываецца ў Беларусі: "Тыя, хто маюць уладу, могуць вельмі добра пераканаць чалавека. Па маёй справе былі таксама "пераканаными". Ніколі не мог падумаць пра некаторых, што і яны будуць хлусіць і агаворваць, але зло мацнейшае за волю чалавека. Я не лічу, што людзі, якія працуюць ва ўладзе і дзяржаўным сектары, - мярзотнікі. Але лічу, што яны адказныя за тое, што адбываецца ў краіне. Хай яны і вінцікі ў гэтым механізме, але без гэтых вінцікаў немагчыма было б так доўга хлусіць свайму народу".

Мікалай Аўтуховіч таксама паведаміў, што спрабуе вырашыць пытанне наконт лячэння зубоў. "Пакуль цішыня, але адвакат займаецца гэтым пытаннем", - удакладняе ён.

На днях стала вядома, што былы следчы Упраўлення ДФР па Гродзенскай вобласці Аліхвер, які давёў справу Мікалая Аўтуховіча і Юрыя Леонава ў 2003-2005 гг. да суда, усё ж такі эміграваў у ЗША. Тады яны былі асуджаныя за так званае эканамічнае злачынства па сфабрыкаванай справе, якая з'явілася пасля таго, як Мікалай Аўтуховіч прад'явіў звесткі аб карупцыі органаў улады ў Ваўкавыскім раёне.

Пазней стала вядома, што следчы Аліхвер, які быў на добрым ліку ў кіраўніцтва КДК, раптоўна звольніўся і знік. Праходзіла інфармацыя, што ён з'ехаў ў ЗША па выйграннай латэрэі Green Card.

Пасля вызвалення па першай крымінальнай справе Мікалай Аўтуховіч быў на прыёме ў амбасадара ЗША ў Беларусі Карэн Сцюарт. Палітвязень прасіў удакладніць, ці спраўды следчы эміграваў у ЗША. Абмасадар абяцала дапамагчы з інфармацыяй, аднак да нядаўняга часу пацверджання гэтаму не было.

Учора ў сацыяльных сетках з'явілася інфармацыя, што Мікалай Аліхвер разам з сям'ёй пражывае ў штаце Атланта, ЗША. На фота ён разам з жонкай. Інфармацыю пра гэта апублікавала рэжысёрка Вольга Нікалайчык.

*spring96.org/be/news/62272*

## Раман Кісляк: Тэрмін затрымання не павінен парушацца

Берасцейскі праваабаронца Раман Кісляк накіраваў міністру ўнутраных справаў Беларусі Ігару Шуневічу і старшыні Вярхоўнага суда Валянціну Сукалу зварот з просьбай «забяспечыць неадкладнае дастаўленне адміністрацыйна затрыманых у суд для разгляду іх справаў».

Як растлумачыў праваабаронца, нагодай для звароту стала сітуацыя з затрыманнем актывістаў Партыі БНФ Леаніда Аўтухова і Канстанціна Смолікава. Яны былі затрыманыя ў Віцебску ў пятніцу, 22 сакавіка, падчас распаўсюджвання бюлетэню з запрашэннем прыйсці на святкаванне Дня Волі, а судзілі іх толькі 25-га, у панядзелак, - кажа Раман Кісляк.

- Працэсуальна-выканаўчы кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях прадугледжвае тэрмін затрымання 72 гадзіны. Але ёсць абмежаванне, якое прадугледжана ў другім раздзеле, калі на працягу 48 гадзінаў затрыманы павінен быць дастаўлены да суддзі і суд павінен пачаць разглядаць гэтую справу. На жаль, той выпадак, які адбыўся тыдзень таму ў Віцебску, калі затрыманне адбылося у пятніцу, а даставілі ў суд толькі ў панядзелак, і такім чынам гэты тэрмін яўна парушаецца. Людзі каля сутак знаходзіліся пад вартай беззаконна.

Раман Кісляк просіць міністра унутранных справаў і старшыню Вярхоўнага суда прыняць меры да выканання падначаленымі ім органамі нормаў закону, а таксама прапануе арганізаваць дзяжурства аднаго з суддзяў у суботу для разгляду такіх справаў.

*racyja.eu/index.php?id=105&zoom=12413#.UVnmhiW0vk1*

# Суд адмяніў прысуд брэсцкаму апазіцыянеру

Судовая калегія па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда адмяніла прысуд суда Брэсцкага раёна, вынесены грамадскаму актывісту Віталю Каўшу.

Крымінальная справа адпраўленая на новы разгляд, піша БелаПАН.

Як паведаміў праваабаронца Раман Кісляк, такое рашэнне было прынята 30 красавіка пасля разгляду ў абласным судзе касацыйнай скаргі Віталя Каўша. «Была абвешчана толькі рэзалютыўная частка вызначэння. У адпаведнасці з практыкай матывы, па якіх прысуд адменены, становяцца вядомымі пазней з тэксту вызначэння суда», - растлумачыў Кісляк.

12 сакавіка раённы суд прызнаў 28-гадовага Каўша вінаватым у здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч. 2 арт. 371-1 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя незаконнай міграцыі), і прыгаварыў да чатырох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Па версіі суда, Коўш па папярэдняй змове з іншай асобай, крымінальная справа ў дачыненні да якога выдзеленая ў асобную вытворчасць, з мэтай незаконнай міграцыі замежных грамадзян на тэрыторыю Польшчы спланавалі і арганізавалі незаконны ўезд у Беларусь з Расеі васьмі грамадзян Індыі.

«У судовым пасяджэнні Віталь Коўш заявіў, што невінаваты і адверг усе прад'яўленыя яму абвінавачванні. У сваёй касацыйнай скарзе ён спасылаецца на шматлікія парушэнні, дапушчаныя ў ходзе папярэдняга следства, - распавёў праваабаронца. - Коўш лічыць, што яму вынеслі абвінаваўчы прысуд на падставе атрыманых з парушэннем закона паказанняў затрыманых індусаў. Паказанні нелегалаў, заяўляў у судзе Коўш, у пратаколах ідэнтычныя, таму што, яны не адбіраліся індывідуальна, а былі скапіяваныя з аднаго тэксту з захаваннем абдрукавак».

Кісляк адзначыў, што сапраўднасць гэтых паказанняў немагчыма было праверыць, так як грамадзя

не Індыі да таго часу былі выдвараныя за межы Беларусі і ім

забаронены ўезд у краіну. Хадайніцтвы Каўша аб іх выкліку і допыце ў судзе адхіляліся.

«Я лічу, гэта парушэнне права абвінавачанага апытваць асоб, якія сведчаць су

праць яго. Таксама ў гэтай справе была парушаная прэзумпцыя невінаватасці, і фактычна Каўшу было адмоўлена ў правасуддзі», - падкрэсліў праваабаронца.

Ён дадаў, што грамадскі актывіст Віталь Коўш удзельнічаў у шэрагу палітычных кампаній у Брэсце. У кастрычніку 2006 года яго затрымлівалі як удзельніка акцыі салідарнасці з палітвязнямі, а на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года ён быў незалежным назіральнікам.

*http://charter97.org/be/news/2013/5/1/68687/*

## Берасцейскія дэпутаты чарговы раз праігнаравалі выбаршчыкаў

Чаму дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь не агучылі праблемы, з якімі да іх звяртаюцца выбаршчыкі, чаму не была агучана просьба паскарэння рэалізацыі малога памежнага руху паміж Беларуссю і Польшчай? Лісты з такімі пытаннямі былі дасланыя берасцейскімі актывістамі кампаніі “Гавары Праўду!” чатыром народным абраннікам ад Берасця.

Намеснік каардынатара кампаніі “Гавары Праўду!” па Берасцю Уладзімір Вуек адзначыў, што выбаршчыкі неаднаразова задавалі пытанні сваім абраннікам:

- Ніводны з іх падчас канферэнцыі, падчас выступу Аляксандра Лукашэнкі 19 красавіка 2013 года не задаў ніводнага пытання, якое турбуе іх выбаршчыкаў. Да іх не раз звярталіся выбаршчыкі па патаннях ушчыльнення прыдваравой тэрыторыі, наконт рамонту дарог, няякаснай працы ЖЭСаў і з шэрагам іншых пытанняў. Але ніводное з гэтых пытанняў не было агучана.

Лісты з пытаннямі атрымаюць Віктар Валюшыцкі, Валянцін Мілашэўскі, Ларыса Багдановіч і Уладзімір Базанаў.

*racyja.eu/index.php?id=104&zoom=13260#.UXrjYIasWiI*

# Кампанія “Рок-салідарнасьць” у Берасьці

Берасьцейскія праваабаронцы разам з Беларускай Музычнай Альтэрнатывай (БМА) зладзілі і правялі мерапрыемства ў межах кампаніі “РокСалідарнасьць” у падтрымку правоў беларускіх музыкаў і аматараў беларускай музыкі.

Падчас мерапрыемства быў прадэманстраваны фільм аб беларускіх палітзняволеных, між іншых аб зняволеным праваабаронцы Алесе Бяляцкім з белсатаўскага цыклу “Невядомая Беларусь”, а таксама адбыўся канцэрт вядомага беларускага паэта, перакладчыка і барда Эдуарда Акуліна.

Адкрыў мерапрыемства праваабаронца Ўладзімір Вялічкін: “На сёняшні дзень склалася практыка, калі беларускіамоўныя музычныя творы амаль зніклі з беларускай медыяпрасторы. З’явіліся таямнічыя спісы забароненых выканаўцаў беларускамоўных музычных твораў. Такая палітыка наўпрост парушае права на творчае самавыражэньне выканаўцаў і права беларускага грамадства іх слухаць, вядзе да нацыянальнага самавыраджэньня беларусаў! Я мару каб на буйнейшых сцэнах Беларусі гучала беларуская музыка, каб беларускія музыкі гралі не на прыватных пасядзелках і ў вясковых клюбах, каб аншлагі былі не на канцертах Газманава, ці Пугачовай, а на канцэртах беларускамоўных выканаўцаў…

Сёньня мы запрасілі да нас вядомага выканаўцу беларускай аўтарскай песьні Эдуарда Акуліна. Спадзяюся нашая сустрэча будзе адной з кропляў, якая спрычыніцца да павяртаньня беларускай культуры на пачэснае месца, на дзяржаўны ўзровень…”

Паэт Эдуард Акулін: “Калісь мы з Бяляцкім стаялі ў вытокаў беларускага року. Разам прысягнулі гаварыць толькі па-беларуску і гаворым толькі па-беларуску. Сёньня ён – кіраўнік праваабарончага цэнтра “ Вясна” і палітзняволены… Мы разам працавалі ў музеі Максіма Багдановіча, а таму пачну свой выступ з песьні “Зорка Максіма”…”

Прысутны на мерапрыемстве берасьцеец Рыгор Варвашэвіч – у захапленьні: “На маёй радзіме Якуб Колас працаваў настаўнікам,




напісаў там свае кніжкі.

“У палескай глушы”, напрыклад. Я быў уражаны, што ёсьць людзі якія сваёй працай адраджаюць Беларускую мову. Гэта не правільна, что беларуская мова не гучыць на штодня паўсюль у нашым жыцьці. Людзі якія цураюцца беларускай мовы, беларускай песьні, беларускай культуры не паважаюць сябе, грэбуюць сваімі продкамі, сваім паходжаннем…”

На развітаньне на памяць аб меўшым месца мерапрыемстве ўсе прысутныя атрымалі значакі кампаніі “РокСалідарнасьць”. Таксама жадаючыя маглі пакамунікавацца ў нефармальнай абстаноўцы з паэтам Эдуардам Акуліным і, нават, атрымаць ягоны аўтограф.

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»